**БАЦЬКАЎШЧЫНА**

**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“)
(8) München 19. Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.
**Цана:** **Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзён-наамэрыканскія краіны): год — 12,5 н. м.; **ЗША й Канада:** год — 6,5 дал.; **Ангельшчына й Аўстралія:** год — 30 шыл.; **Францыя:** год – 12,5 н. ф. **Паўгода — палавіна пададзенае цаны. Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 3 (603) 25-га сакавіка 1963 ГОД ВЫДАНЬНЯ 17

# 1918 — 25 Сакавіка — 1963

## Ад Каліноўскага да Акту 25 Сакавіка

Сёлета спаўняецца некалькі вялікіх угодкаў зь гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Найважнейшыя зь іх — гэта 100-годзьдзе беларускага народнага паўстаньня 1863 году, пачатак якога прыпадае на канец сакавіка — пачатак красавіка, і 45-годзьдзе Акту 25 Сакавіка.

Адзначаючы гэтыя ўгодкі, выразьней усьведамляецца ідэйная сувязь, цягласьць і ўзаемнае дапаўненьне гэтых двух найвыдатнейшых актаў вызвольнага змаганьня нашага народу пасьля страты гістарычнай дзяржаўнасьці, міжволі насоўваецца на думку падабенства абставінаў і разьмяшчэньня сілаў, што іх суправаджалі. Падабенства знаходзім таксама як у трагічным заканчэньні гэтых актаў, гэтак і ў пацьверджаньні імі пасьлядоўнасьці і нязломнасьці стыхійнага імкненьня нашага народу да сваіх запаветных мэтаў — свабоды, незалежнасьці й справядлівасьці.

Факт існаваньня гэтых вялізарных вехаў на шляху вызвольнага змаганьня нашага народу не дае супакою сяньняшнім прыгнятальнікам беларускага народу. Яны намагаюцца апаганіць іх, выкрывіць іхны зьмест у вачох прыгнечаных народаў і вонкавага сьвету, а часам нават выкарыстаць для сваіх інтарэсаў. Але дарма!

І паўстаньне 1863 году і Акт 25 Сакавіка былі ськіраваныя да тае самае мэты — вызваленьня нашага краю з пад чужацкай няволі, аднаўленьня нацыянальнай незалежнасьці й сацыяльнай справядлівасьці ў рамках свае незалежнае дзяржавы. І ў абодвух выпадках гэтыя справядлівыя імкненьні беларускага народу сустрэлі жорсткі супраціў з боку тае самае сілы — імпэрыялістычнае Масквы.

На ўсходзе Эўропы лёс Беларусі падзялялі і падзяляюць шмат іншых краінаў, але хіба ніводнаму народу ў іншых частках сьвету не давялося столькі змагацца за сваю свабоду супраць аднаго й таго-ж захопніка й прыгнятальніка і да сяньня заставацца паняволеным, як гэта выпала на долю Беларусаў.

Яшчэ, праўда, ня мала ёсьць людзей, што ў сувязі з гэтым ставяць пытаньне: чым-жа вытлумачыць такое палажэньне? І яны звычайна рэдка трапляюць на правільны адказ. Ім, звычайна, не азнаёмленым ні з запраўднай гісторыяй краінаў нашых прастораў ні зь іхнай сучаснасьцяй, цяжка ўсьведаміць, што апрача прычыны геапалітычнага палажэньня нашай Бацькаўшчыны, ёсьць адна галоўная прычына: палітыка кіруючых колаў нашага ўсходняга суседа — колаў, якія здольныя кідацца з аднэй скрайнасьці ў другую, каб паставіць дагары нагамі ўвесь свой нутраны сацыяльны лад, але якія ў вонкавых дачыненьнях нязьменна і цьвёрда трымаюцца жорсткага й бескампрамісовага імпэрыялістычнага курсу. А што сяньняшнія акупанты Беларусі запраўды зьяўляюцца вернымі прадаўжальнікамі імпэрыялістычнай палітыкі расейскіх цароў, кажны можа пераканацца на прыкладзе іхнага змаганьня за захаваньне ўсіх заваёваў сваіх фэадальных папярэднікаў. На Беларусі яны далей ваююць ня толькі супраць Акту 25 Сакавіка і ўсіх праяваў нацыянальнага адраджэньня пазьнейшага пэрыяду, але й супраць Кастуся Каліноўскага ды цэлай гістарычнай асновы існаваньня беларускай нацыі. Але таму, што супраць гістарычных фактаў змагацца цяжка, бальшавіцкая прапаганда часта зьвяртаецца супраць самой сябе. Так атрымалася з насьвятленьнем ідэйных і палітычных пазыцыяў беларускага паўстаньня 1863 году і сьветапагляду самога Каліноўскага. Пасьля шматгадовага «выгнаньня» Каліноўскага як «буржуазнага нацыяналістага» зь гісторыі Беларусі, апошнім часам пачынаюць яго памаленьку «рэгабілітаваць», але толькі ў такой ступені, наколькі яго можна схвальшаваць, каб зрабіць прадвесьнікам бальшавіцкай рэвалюцыі . . . Пайшлі ў ход прыхваткі бальшавіцкай дыялектыкі. Каліноўскага пачалі прадстаўляць не як змагара за нацыянальную свабоду й незалежнасьць Беларусі ад Расеі, бо пытаньні палітычных дачыненьняў вызваленай Беларусі зь ейнымі суседзямі яго, як быццам, ня цікавілі, — а толькі як змагара за сацыяльныя правы сялянства. Дайшло да таго, што Каліноўскаму пачалі прыпісваць бальшавіцкую клясавую сьведамасьць. У палітычнай галіне бальшавіцкая інтэрпрэтацыя пакідае Каліноўскаму толькі адно права: пад няўмольным уплывам расейскіх рэвалюцыянэраў-дэмакратаў змагацца за дружбу з расейскім народам . . .

А найбольш кур'ёзнае тое, што гэты хвальш публікуецца побач з дакумантамі, якія гавораць аб зусім іншым. Апрача ведамых дасюль палітычных выказваньняў Каліноўскага ў «Мужыцкай праўдзе», у ягоных адозвах да народу і ў славутым «Лісьце спад шыбеніцы», апошнім часам у СССР былі знойдзены і апублікаваныя ў беларускай савецкай прэсе новыя дакуманты, у якіх выразна адлюстроўваецца сьветапагляд і рэвалюцыйная дзейнасьць Каліноўскага. Гэтак, у № 1 часапісу «Полымя» за гэты год, у артыкуле Генадзя Кісялёва да 125-годзьдзя ад дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага, гаворыцца, што расейскі генэрал В. Ф. Ратч, «які пісаў на даручэньне Мураўёва-Вешальніка кнігу аб паўстаньні 1863 году, карыстаўся нейкімі няведамымі цяпер крыніцамі з каштоўнымі дадзенымі пра сьветапагляд Каліноўскага і ягоную рэвалюцыйную дзейнасьць. Магчыма гэта былі нават запіскі самога Каліноўскага» — гаворыць Г. Кісялёў.

Далей Кісялёў паведаміў, што яму ўдалося знайсьці ў Ленінградзкай Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы частку архіўных матарыялаў Ратча пра паўстаньне і Каліноўскага. Ратч апісвае як разглядалася нацыянальнае пытаньне ў «Літоўскім правінцыяльным камітэце» напярэдадні паўстаньня. Паводля ягоных словаў, першы, хто задумаўся пра будучы лёс Беларусі і Літвы, быў Каліноўскі. Дaслоўна: «Калі-ж Каліноўскі ўступіў створаны камітэт, тады ён гэтае пытаньне, якое нявыразна разумелася і на якое ніхто не зьвяртаў увагі на першых паседжаньнях, стаў прыводзіць у яснасьць, каб пасьля вызваленьня, скончыўшы барацьбу з Расеяй, не прыйшлося працягваць яе міжусобіцамі».

Другі урывак з запісаў Ратча: «Каліноўскі пільна стаяў на варце інтарэсаў Літвы (маецца на ўвазе Літва гістарычная, а не сяньняшняя — М. К.) і дамагаўся, каб сродкі і сілы Літвы зусім ня йшлі на справу Каралеўства Польскага. Літва, гаварыў ён сваім сябром, скарыстаўшы разлад паміж Расеяй і [illegible] стаць самастойнай. Энэргічна змагаўся ён за тое, каб рэвалюцыйны камітэт называўся Літоўскім камітэтам, а не Літоўскім выканаўчым аддзелам, як хацелі назваць яго ў Варшаве. Каліноўскі стала патрабаваў, каб выдаткі на Літве вяліся асобна ад Каралеўства».

Няма ніякіх падставаў сумлявацца ў праўдзівасьці апісанага Ратчам палажэньня. А з апісаньня відаць, што Каліноўскі меў выразныя пляны адносна будучыні Беларусі. Ён пасьлядоўна змагаўся за палітычную незалежнасьць свае бацькаўшчыны. Ніякія тлумачэньні накшталт робленых цяпер бальшавікамі, што пад словам Расея, маскаль, маскоўскі трэба разумець толькі аднаго цара або царскае самаўладзтва, тут нічога зьмяніць ня могуць. Зацытаваныя тут новазнойдзеныя дакуманты пра Каліноўскага яшчэ раз пацьвярджаюць ягоныя ведамыя ўжо й раней пагляды на палітычныя мэты паўстаньня і яшчэ больш умацоўваюць яго на пазыцыях беларускай нацыянальнай рэвалюцыі.

Апрача ясных палітычных мэтаў, Каліноўскі меў шырокую і радыкальную сацыяльную праграму — распадзел зямлі абшарнікаў паміж сялянамі. Адносна гэта знойдзены цяпер таксама новыя дакуманты. Прыгадаў Генадзь Кісялёў апісвае знойдзеную «Паўстанцкую інструкцыю» Каліноўскага, у якой у вадным з пунктаў гаворыцца, што ў тэй мясцовасьці, якая будзе занятая паўстанцамі, неабходна неадкладна выканаць дэкрэт Часовага ўраду (Каліноўскага) аб надзяленьні сялян зямлёй. Зацытаваўшы такі сказ Інструкцыі: «Найбольш злосных прыгнятальнікаў сялян для прыкладу, у прысутнасьці сабраных уласьцей учыніўшы ваенны суд, караць сьмерцяй, не дапускаючы самавольнай экзэкуцыі» — Кісялёў не знаходзіць слоў, каб выказаць сваё захапленьне, што цяпер, маўляў, для савецкіх гісторыкаў адкрытая магчымасьць асэнсаваць паўстаньне 1863 году з «марксыстаўска-ленінскіх» пазыцыяў, гэта значыць — затушаваць нацыянальны і ўвыпукліць «клясавы» характар змаганьня.

Але гэтае захапленьне вельмі наіўнае. Знайсьці адну зачэпку, каб цэлую падзею падагнаць пад нейкую схэму, няцажка. Але бяда бальшавіцкіх тэарэтыкаў у тым, што сама іхная схэму наскрозь хвальшывая. Змаганьне паўстанцаў Каліноўскага за распадзел абшарніцкай зямлі на ўласнае карыстаньне сялянам — гэта поўная супрацьлегласьць да прымусовай бальшавіцкай калектывізацыі, у выніку якой сяляне страцілі ўсё, што мелі. Пагвалчаньне бальшавікамі спрадвечнага імкненьня селяніна да свае ўласнае зямлі было не лягічным заканчэньнем сацыяльнай праграмы Каліноўскага, а дэманстрацыяй вялікага ашуканства.

На працягу свае гісторыі беларускі народ даказаў, што ён не патрабуе адмысловых замежных рэцэптаў, каб у сваёй краіне трымаць парадак і людзкія дачыненьні паміж грамадзянамі. Нам зайздросьцілі, мы ганарыліся сваімі парадкамі й абаранялі іх, пакуль сквапны на чужое сусед не зьнясіліў нас няспыннымі захопніцкімі войнамі і не давёў да нячуванай духовай няволі й матарыяльнай галечы. Ня гледзячы на гэта, народ наш не скарыўся. Стыхійнае народнае паўстаньне 1863 году і ягоныя нацыянальна-вызвольніцкія мэты паказалі, што народ наш добра ўсьведамляў,

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

## У 100-ыя ўгодкі Паўстаньня 1863 году

На фоне 45-х угодкаў Сакавіковага Акту хацелася-б дакладней узважыць і падзеі стагадовай даўнасьці — паўстаньне 1863 году.

Неяк сталася, што паўстаньню 1863-га году й асабліва дзейнасьці Кастуся Каліноўскага, 101-я гадавіна сьмерці якога прыпадае на 22 сакавіка, мы прысьвячаем менш увагі, чымся яны на гэта заслугоўваюць. У вялікай меры прычынай гэтага ёсьць тое, што нашая гісторыя і, ў прыватнасьці гісторыя паўстаньня 1863 году, фактычна знаходзілася і знаходзіцца ў руках чужацкіх нам сілаў. Бясспрэчна, калі ў шматлікай гістарычнай літаратуры, навет у сучаснай, як, прыкладам, у выданьні Акадэміі навук СССР — «Польское восстание 1863 года» (Масква, 1962), — нам цьвердзяць, што Кастусь Каліноўскі быў Палякам і што паўстаньне 1863 году «распаўсюджвалася на Літве» (у сяньняшнім значэньні) і толькі «закранула Беларусь», дык гэта псыхалягічна мусіла дзеіць і на нас.

Вось-жа ўзьнікае пытаньне: што станавілі сабой паўстаньне 1863 году ў Беларусі і постаць Кастуся Каліноўскага ў запраўдным гістарычным сьвятле ды якую яны маюць гістарычную вартасьць у нашым нацыянальна-вызвольным змаганьні?

Было-б няслушна пярэчыць, што гэтае паўстаньне ніякім чынам ня было зьвязана з польскім паўстаньнем. Яно было ў цеснай сувязі зь ім, аднак паўстаньне 1863 году ў Беларусі зьяўлялася адначасова й чыста нацыянальна-беларускай падзеяй. Падрыхтоўка гэтага паўстаньня ў Беларусі з самага пачатку неразлучна была зьвязана з ідэяй адраджэньня незалежнасьці Беларусі, прынамся зь ідэяй утварэньня новай «фэдэратыўнай Польшчы», у якую Беларусь уваходзіла-б з правам на шырокую палітычную й культурную аўтаномію. Сам Кастусь Каліноўскі йшоў шмат далей. Ён пасьлядоўна ажыцьцяўляў ідэю заваяваньня поўнай незалежнасьці Беларусі. У сувязі з гэтым тады й разгарэлася спрэчка ў справе будучага лёсу Беларусі. Яна й прымусіла больш дэмакратычны польскі элемэнт прызнаць права «на самавызначэньне» й «выказваньне волі» беларускаму народу ды высунуць як адзін з прынцыпаў рэвалюцыйнай праграмы ўтварэньне новае «Польшчы» на фэдэратыўных асновах. Сам-жа Кастусь Каліноўскі атрымаў мянушку закаранелага «літоўскага сэпаратыстага» й усялякімі магчымымі спосабамі быў перасьледаваны.

Некаторыя савецкія гісторыкі вышэй прыгаданыя ўступкі Палякаў прыпісваюць заслугам расейскіх дэмакратаў, а менавіта Герцэну, Агараву, Бакуніну, Чарнышэўскаму й г. д. Трэба прызнаць, што між апошнімі й Палякамі таксама йшла спрэчка за будучы лёс Беларусі, аднак гэтая спрэчка, можна сказаць, ня выходзіла за межы звычайнае спрэчкі двух калянізатараў, хоць часамі й прыкрывалася тым-жа правам «на самавызначэньне».

Беларускае пытаньне было ня толькі тэмай гэтых ідэйных спрэчак. На ўсю шырыню яно было пастаўлена і ў практычнай дзейнасьці Літоўскага камітэту, узначаленага Кастусём Каліноўскім. Гэтак, калі Палякі сваёй паўстанцкай арганізацыяй ахапілі Беласточчыну й пачалі пранікаць у Горадзенскую губэрню, а таксама высылаць сваіх камісараў у глыб Беларусі, Літоўскі камітэт адразу складае належны пратэст. У лістападзе 1862 году ў Варшаву высылаецца Э. Вярыга, які ад імя Літоўскага камітэту дамагаецца: 1. Выдаць статут, які акрэсьліваў-бы правы абодвух камітэтаў (Цэнтральнага Варшаўскага й Літоўскага камітэтаў); 2. Абодва камітэты павінны быць прызнанымі роўнымі ў правах, пакідаючы за Варшаўскім камітэтам толькі пяршынства між роўных; 3. Сталыя ўпаўнаважаныя агенты ці камісары пры камітэтах павінны карыстацца роўнымі правамі; 4. Канчатковая дата пачатку паўстаньня павінна быць узгоднена абодвума камітэтамі; 5. Варшава не павінна пасылаць у Беларусь ніводнага агента, апрача аднаго сталага які мусіць быць пры Літоўскім камітэце ў Вільні; 6. Неадкладна адклікаць былога агента Дзюлярана, які намагаўся заснаваць тут новы прапольскі камітэт, а таксама неадкладна перадаць Беластоцкую паўстанцкую арганізацыю Літоўскаму камітэту.

Перамовы далі абмежаваныя вынікі: Пяршынства й улада Цэнтральнага Варшаўскага камітэту павінна была заставацца непарушнай; 2. Польскі камісар у Вільні меўся карыстацца большымі правамі, чымся беларускі ў Варшаве; 3. Улада Літоўскага камітэту ў межах Беларусі прызнаецца, аднак яна абмяжоўваецца загадамі Варшаўскага камітэту й кантролем ягонага камісара; 4. Варшаўскі камітэт згадзіўся больш ня высылаць іншых сваіх агентаў у Беларусь; 5. Дата паўстаньня павінна быць узгоднена зь беларускім упаўнаважаным агентам у Варшаве; 6. Дзюляран быў адкліканы ў Варшаву; 7. Беласточчына павінна была перайсьці ў сфэру дзеяньня Літоўскага камітэту пасьля прыняцьця ім вышэй пададзеных пунктаў умовы.

Гэтая ўмова, аднак, была адкінутая Літоўскім камітэтам. У пачатку сьнежня 1862 году на далейшыя перамовы з Варшаўскім камітэтам высылаецца Длускі. Ня гледзячы на некаторыя новыя ўступкі з боку Варшаўскага камітэту, перамовы зацягваюцца да пачатку паўстаньня ў Польшчы й канчаюцца нічым. Літоўскі камітэт стойка трымаўся сваіх ранейшых дамаганьняў і не дапушчаў ніякага кампрамісу ці абмежаваньня сва-

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

# Калгасы і саўгасы Беларусі ператвараюцца ў жывёлагадоўчыя гаспадаркі

Праездам з Усходняй Нямеччыны Хрушчоў спыніўся на чатыры дні ў Менску. Там ён размаўляў з партыйна-савецкімі кіраўнікамі Беларусі аб зьменах гаспадарчага напрамку калгасаў і саўгасаў. Вось-жа ў выніку гэтах гутарак у савецкай прэсе за 18 сакавіка сёлета была зьмешчана запіска Хрушчова прэзыдыюму ЦК КПСС пад назвай «Аб некаторых пытаньнях спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі на Беларусі, Прыбалтыцкіх рэспубліках і паўночна-заходніх вобласьцях Расейскай Фэдэрацыі».

У сваёй запісцы Хрушчоў прапануе ўсю заходня-паўночную частку Савецкага Саюзу адвесьці пераважна дзеля вытворчасьці ў калгасах і саўгасах малака, мяса і разьвіцьця птушкагадоўлі. Даведаўшыся, што ў Заходняй Нямеччыне разводзяцца качкі бяз водных прастораў, Хрушчоў у сваёй запісцы дадае, што на Беларусі ёсьць шмат азёраў, таму трэба выкарыстаць гэтую асаблівасьць і разводзіць качак на вадзе, бо вазёры маюць шмат дармовых кармоў. Маўляў, будзе танна й карысна.

За гэтай запіскай быў зьмешчаны у «Правде» вялікі артыкул першага сакратара ЦК КП Беларусі Мазурава. У артыкуле Мазураў з захапленьнем адзначае, што Мікіта Сяргеявіч вельмі пільна і дасканала вывучыў прыродныя ўмовы сельскай гаспадаркі на Беларусі і глыбока прааналізаваў эканоміку калгасаў і саўгасаў. У сваім артыкуле Мазураў зьдзіўляецца празорлівасьцяй Хрушчова, бо, маўляў, ягоныя думкі й дасьветчаньне, якія будуць праведзеныя ў жыцьцё, адыграюць выключную ролю дзеля далейшага й пасьпяховага разьвіцьця калгасаў і саўгасаў на Беларусі...

Мазураў упэўнена падкрэсьлівае, што на Беларусі ёсьць бясспрэчныя спрыяльныя ўмовы дзеля пасьпяховага разьвіцьця жывёлагадоўлі. Зусім ня будзе трудным у калгасах і саўгасах давесьці на кажныя 100 гэктараў сельскагаспадарчых земляў да 70 галоў буйнай рагатай жывёлы. Між тым, пакуль што ў сярэднім калгасы маюць толькі на кажныя 100 гэктараў 28 галоў буйнай рагатай жывёлы і ў тым ліку 11 кароў, а паасобныя калгасы маюць толькі 5 кароў на 100 гэктараў.

Паводля праекту Хрушчова, калгасы й саўгасы на Беларусі, зьмяніўшы кірунак разьвіцьця сельскай гаспадаркі ды зволненыя ад абавязковай здачы дзяржаве збожжа, у ніякім выпадку ня маюць права зьмяншаць пасяўныя плошчы збожжавых культураў і не павінны ператвараць ворныя палі ў сенажацi.

Мазураў з свайго боку ўважае стратным для савецкай дзяржавы плаціць калгасам і саўгасам Беларусі, за прададзеныя дзяржаве 30 мільёнаў пудоў збожжа 39 мільёнаў рублёў, бо на Паўночным Каўказе збожжа прадаецца па значна ніжэйшых цэнах. Між тым, калгасам Беларусі сабекошт 30 мільёнаў пудоў збожжа абыйшоўся 42 мільёны рублёў, а дзяржава заплаціла толькі 39 мільёнаў.

Яшчэ ў 1958 годзе ЦК КПСС і Савет міністраў СССР прынялі пастанову аб забесьпячэньні буйных гарадоў і работніцкіх пасёлкаў малаком, бульбай і гароднінай. З гэтай мэтай вакол гарадоў зь лепшых саўгасаў былі створаны спэцыялізаваныя трэсты, на якіх быў ускладзены абавязак забясьпечваць працоўных гарадоў гэтай прадукцыяй на працягу ўсяго году па даступных цэнах

Каб павялічыць вытворчасьць малака, гародніны і бульбы, гэтыя гаспадаркі былі надзеленыя сродкамі й дастаткова забясьпечаны сельскагаспадарчымі машынамі. Асаблівая ўвага была зьвернутая на забясьпячэньне малаком і гароднінай насельніцтва Масквы й Ленінграду, бо няпрыгожа выглядалі чэргі па прадукты ў сталіцах будаўніцтва камуністычнага ладу...

У Маскоўскі трэст прыгарадзкіх гаспадарак уваходзіла сорак найлепшых саўгасаў. Трэст ужо дзейнічае пяць гадоў. Якія-ж вынікі гэтай дзейнасьці? Саўгасы трэсту ў 1961 годзе павінны былі даставіць жыхаром Масквы 350 тысяч тонаў бульбы, а здалі толькі 137,6 тысяч тонаў. Меркавалася, што цэнтнар бульбы будзе каштэваць саўгасу 2 рублі 50 кап., а фактычна абыйшоўся 7 руб. 62 кап. Прадбачвалася, што з гэктара бульбы будзе сабрана 160 цэнт., а фактычна сабрана меньш за палавіну. Бульба была завезена ў Маскву зь Беларусі.

Крыху пазьней спэцыялізаваныя саўгасы былі выдзеленыя дзеля забясьпячэньня малаком і гароднінай працоўных Менску. Ня будзем уваходзіць у разгляд дзейнасьці ўсіх гаспадарак, якія абслугоўваюць прадуктамі сталіцу Беларусі. Спынімся на саўгасе пад назвай «Іскра». У гэтым саўгасе налічваецца 115 насельніцкіх пунктаў. Гаспадарка расьцягнулася ў даўжыню на 40 кілямэтраў, а ў шырыню — на 20 кілямэтраў. У саўгасе ёсьць 11 тысяч гэктараў сельскагаспадарчых земляў, у тым ліку ворнай зямлі звыш трох тысяч гэктараў. Землі саўгасу перасечаны лясамі, хмызьнякамі й балотамі. У розных частках саўгасу разьмешчана звыш трох тысяч галоў буйнай рагатай жывёлы. Дойныя каровы знаходзяцца ў 11 мясцох. Толькі за мінулы год ў саўгасе здохла 129 галоў буйнай рагатай жывёлы, 80 сьвіней, сотня авечак і 18 тысяч галоў хатняй птушкі.

Усё гэта прынесла страты саўгасу на суму 21,5 тысяч рублёў. За ўсе гады саўгас «Іскра» ніразу ня выканаў плянаў вытворчасьці збожжа, бульбы, гародніны й прадукцыі жывёлагадоўлі.

Недастатковае забесьпячэньне працоўных вялікіх гарадоў мясам, малаком, гароднінаю, бульбаю ды няўдалыя спробы ўціхамірыць незадаваленьне насельніцтва праз арганізацыю спэцыялізаваных саўгасаў вакол гарадоў прымусілі Хрушчова абвесьціць у сваёй запісцы, што ўся заходня-паўночная частка СССР будзе занята вытворчасьцяй мяса й малака ды напэўна задаволіць патрэбы ў гэтых прадуктах. Што прынясе гэтая новая камбінацыя працоўным гарадоў, пакажа час.

Трэба чакаць, што ўжо гэтай вясной пачнецца звычайная ў такіх выпадках мітусьня аб ператварэньні калгасаў і саўгасаў у жывёлагадоўчыя гаспадаркі, бяз уліку магчымасьцяў і прыгоднасьці гаспадаркі дзеля вытворчасьці малака й мяса. Між тым, і да гэтага часу Беларусь была падзелена на тры зоны з наступным сельскагаспадарчым кірункам:

1. Лёна-малочна-мясная зона ў васноўным ахоплівала Віцебшчыну й паўночныя раёны Магілеўшчыны, Меншчыны й Горадзеншчыны.

2. Бульба-малочная-свінагадоўчая зона ахоплівала цэнтральную частку рэспублікі, бальшыню раёнаў Меншчыны, Горадзеншчыны й Берасьцейскай вобласьці. Тут урадлівай была бульба, што стварала ўмовы для сьвінагадоўлі.

1. Зона зь пераважным разьвіцьцём вытворчасьці мяса, малака, бульбы, цукровых буракоў. У гэтую зону уваходзілі раёны паўдзённай часткі Беларусі. У гэтай зоне прыпадала звыш 54 працэнтаў таварнай прадукцыі на жывёлагадоўлю.

Празьмерная спэцыялізацыя калгасаў і саўгасаў у кірунку жывёлагадоўлі ня прынясе карысьці калгасьнікам, бо ня ўсе гаспадаркі маюць адпаведныя умовы дзеля разьвіцьця жывёлы. Між тым, камуністычнае кіраўніцтва ў праводжаньні вызначаных мерапрыемстваў ніколі ня знала меры. Дастаткова было Хрушчову два гады таму сказаць, што на Беларусі сеюць шмат бульбы, як паслухмянае камуністычнае кіраўніцтва войстра зьменшыла пасяўныя плошчы гэтай культуры і замяніла пасевамі кукурузы. Цяпер Хрушчоў ужо агледзеўся й патрабуе павялічыць пасевы бульбы для харчаваньня й адкорму жывёлы. Так станецца і з спэцыялізацыяй калгасаў і саўгасаў. Правядуць «спэцыялізацыю», а потым давядзецца вярнуцца да ранейшых пазыцыяў...

**В. К.**

# Хрушчоў падмарожвае адлігу

Ведема, што Мікіта Хрушчоў любіць «раіцца» з народам адносна ўсіх праблемаў жыцьця ў Савецкім Саюзе. Гэта яму дае нагоду адчыкрыжыць яшчэ адну «гістарычную», «хвалюючую» даўжэзную прамову, якая пазьней выдаецца масавым тыражом і ўжываецца як тара да селядцоў ці мыла, калі гэтыя прадукты давязуць у крамы. Толькі вось гэтыя «нарады» выглядаюць даволі дзіўна: Хрушчоў ня слухае й не бярэ на ўвагу парады народу, а толькі сам дае «парады», якія трэба разглядаць, як загад, ды якія можна сустракаць бурнымі воплескамі, але ніколі крытыкаваць, ці зь ім не пагаджацца.

Нядаўна Хрушчоў зарганізаваў такую «нараду» зь дзеячамі літаратуры й мастацтва. Варта прыгадаць, што напрацягу некалькіх апошніх месяцаў гэта ўжо трэйцяя ягоная «нарада» з працаўнікамі мастацтва, з чаго бачна, што гэтая праблема трывожыць Хрушчова й супалку.

Пасьля XX зьезду, пазьнейшай дэсталінізацыі й асуджэньня культу асобы, некаторыя шчыра паверылі, што беспаваротна скончыліся змрочныя часы сталінскага цемрашальства і ў Савецкім Саюзе пачынаецца лібэралізацыя, якая ў канчальным выніку прывядзе да дэмакратыі. Гэта першы сыгналізаваў Ільля Эрэнбург у сваёй алегарычнай аповесьці «Адліга». Аднак з часам выявілася, што адна ластаўка ня робіць вясны і што ня хопіць выкінуць мумію Сталіна з маўзалею. Узьнікае куды больш складанае пытаньне: як выкінуць Сталіна з душаў сталінцаў? Гэтае пякучае пытаньне паставіў малады паэт Еўтушэнка. Ня будзем спэкуляваць, каго меў на думцы Еўтушэнка: г. зв. «антыпартыйную групу», якая практычна разьбітая, ці ўсіх сталінскіх гадунцоў, а ў тым ліку й цяперашніх маскоўскіх верхаводаў. Кажуць: «стукні кулаком па стале, а нажніцы забразгаюць». Хрушчоў слушна мог зразумець гэтую алюзію ў дачыненьні да сябе, бо калі ён навет і ня быў сталінцам найбольш шчырым, дык быў найбольш крыклівым. На апошняй «нарадзе» і стары Эрэнбург і малады Еўтушэнка атрымалі ад Хрушчова найбольшую дозу «парадаў», за якія напэўна ня былі свайму дарадніку ўдзячныя. Хрушчоў мае неблагую памяць, а калі пра нешта і забудзецца — знойдуцца такія, што яму ўслужна прыгадаюць.

Маскоўскія верхаводы ўпару спахапіліся, што гэтая «адліга» можа быць небясьпечнай для іх, і пачалі яе падмарожваць. Аднак, у міжчасе на паверхню вырваліся новыя плыні ўва ўсіх галінах мастацтва, якія казённая крытыка назвала «нездаровымі тэндэнцыямі», «буржуазнымі наносамі», якія могуць «дэмаралізаваць» падсавецкае грамадзтва. І вось з гэтымі рознымі абстракцыяністымі, фармалістымі ды іншымі антысацрэалістымі Хрушчоў і супалка вырашылі зрабіць парадак ды падрэзаць ім крыльле.

Трэба прызнаць, што апошняя «нарада» Хрушчова з мастакамі была нябласа вырэжысэраваная. Першы дзень выступалі розныя хрушчоўскія падгалоскі, якія непахісна сталі на пазыцыях сацрэалізму (які навет нябожчык Фадзееў акрэсьліў: «чорт ведае, што гэта такое»). У гэтым спаборніцтве абароны казённага цемрашальства, не апошняе месца здабыў і дзяржыморда беларускай літаратуры Пятрусь Броўка, які шпарка адшлёпаў норму нізкіх паклонаў перад партыяй і «дарагім Мікітам Сяргеевічам». Усё-ж, каб захаваць хоць выгляд дэмакратычнасьці, далі слова і прадстаўніку мадэрных плыняў у мастацтве — паэту Раждзественскаму, які рабіў спробы абараняць гэтыя плыні, за што яго назаўтра Хрушчоў у сваёй прамове распорваў па ўсіх швах.

Прамова Хрушчова няшмат розьнілася ад славутага выступленьня Жданава на першым зьезьдзе савецкіх пісьменьнікаў у 1934 годзе. Тут Хрушчоў брутальна, а падчас і вульгарна, заявіў, што савецкі мастак зьяўляецца прыладай партыі і мусіць загады партыі выконваць, а адступленьне ад партыйнай лініі ня будзе талеравацца і гэта савецкія мастакі мусяць засекчы сабе на носе. І вось гэты кіш-міш дылетанцтва ў мастацтве мастакі выслухалі ў пакорнай маўклівасьці. Ніхто не сказаў: «Дзядзька Мікіта, гэтыя праблемы кроеныя не на твае плечы. Давай лепш пабалакаем пра кукурузу...» Мала таго, назаўтра ў прэсе зьявіліся палымяныя выказваньні аб прамове Хрушчова тых, што на «нарадзе» не змаглі адшлёпаць нормы нізкапаклоньніцтва. Тут выступленьне дылетанта і прафана Хрушчова называецца «гістарычным», «прасякнутым глыбокай мудрасьцяй», «высякаючым агонь у душах» і гэтак далей. Тут розныя сіманавы, вучэцічы, ісакоўскія, ерамілавы, асеевы ды іншыя знайшлі сабе арэну для сацспаборніцтва. Ім ня прывыкаць... Старая сталінская школа.

(Заканчэньне на 5-ай бач.)

# Perpetuum mobile

Калісьці, яшчэ за часоў Маскоўскага княства, у жалезных клетках палілі тых людзей, якія хацелі прынесьці асьвету й гуманізм, хацелі прыасьвятліць цемнату й барбарства. У такі спосаб гінулі Італьянцы, Ліцьвіны й Немцы. З Маскоўшчыны таксама выганяліся ці змушаныя былі ўцякаць стуль людзі, якія пазнавалі неабходнасьць гуманізму й працавалі ў гэтым кірунку. Аднак гэта ўсё тут лічылася «чартоўствам», замахам на «дар Божы», і тут снаваліся павуціны пра нічэмнасьць прасьветы, гуманізму: «цар пастаўлены Богам», ягоная ўлада «ідзе ад Бога» й таму ён — дзея й праўда, закон і правасудзьдзе, жыцьце й сьмерць і можа рабіць з сваім «холопом», што яму толькі ўздумаецца. Бязумоўна, для апраўданьня гэтага ўжо тады ствараліся розныя «філязафічныя» трактаты, і барбарству ня было межаў.

У бліжэйшую да нас эпоху, менавіта ў XIX і XX стагодзьдзях, за гуманізм людзей не палілі ў жалезных клетках. Аднак для іх служыла катарга ў Сібіры. Дух-жа сярэднявечча заставаўся той самы: народ — гэта толькі гной, на якім павінна залацець царская карона, разбудоўвацца імпэрыялістычная магутнасьць дзяржавы. Ён ня мае права ані думаць, ані валодаць сваім жыцьцём, ані жадаць правасудзьдзя, ані, ані... Для сыноў нерасейскіх народаў існуюць вісельні, пагромы, няволя й няволя з прыкраскамі: «...дзякуючы цару-бацюшку й выбранаму расейскаму народу».

Потым ідзе эпоха «божага выбранца» Сталіна. Жудасна ўспамінаць, ды пра гэтую жудасьць шмат напісана.

Да такое аналёгіі ня можна ня прыйсьці, чытаючы «шэдэўр» таварыша Хрушчова, апавешчаны 8 сакавіка на сустрэчы партыйных босаў з працаўнікамі культурнага фронту.

Мы, — вялікасьць, Партыя (чытай — Хрушчоў) — тая-ж праўда й дзея, закон і правасудзьдзе, жыцьцё й сьмерць... Адным словам, гэтае «мы» — ўсё. Пісьменьнікі, мастакі й сам народ «не имеют

(Заканчэньне на 5-ай бач.)

П. Залужны

# Некалькі заўвагаў адносна сучаснае савецкае нацыянальнае палітыкі

Як ведама, новая Праграма КПСС зусім выразна ставіць за заданьне так званае «зьбліжэньне» й «поўнае зьліцьцё» падсавецкіх народаў. Праўда, тут ёсьць і некалькі засьцярогаў, як, напрыклад, тое, што гэтае зьліцьцё будзе адбывацца на прынцыпе «дабраахвотнасьці» й «раўнапраўнасьці» ды што дадзены працэс, асабліва працэс моўнага «зьліцьця» будзе доўгатрывалым і магчыма яшчэ «перажыве» 1980-я гады, калі прадбачваецца заканчэньне пабудовы «камунізму» ў СССР.

Трэба зазначыць, што гэтае палітычнае крэдо новай Праграмы партыі не зьяўляецца пустой фразэалёгіяй. Яно не зьяўляецца таксама чымсьці зусім новым, але вядзе сваю генэалёгію з даўніх, яшчэ з царскіх часоў. Што-ж тычыцца прынцыпу «дабраахвотнасьці» й «раўнапраўнасьці», дык гэтымі тэрмінамі карыстаўся і Сталін...

Аднак, не забягаючы наперад, прыглянемся, як-жа ўсё гэта ажыцьцяўляецца й будзе ажыцьцяўляцца?

**Моўнае «зьбліжэньне».** Гэты працэс мае быць найдаўжэйшым, бо і «усемагутная» партыя яшчэ не знайшла такіх эфэктоўных сяродкаў, якія на працягу пару гадоў маглі-б спаралiжаваць языкі нерасейскіх народаў і прымусіць іх аўтаматычна загаварыць «вышэйшай» мовай расейскага народу. Аднак і ў гэтым кірунку робяцца ўсемагчымыя высілкі. Як ведама, ужо здаўна расейская мова сілком насаджваецца праз школы, а таксама шляхам штучнае русыфікацыі літаратурных моваў нерасейскіх народаў. Яшчэ задоўга да школьнае рэформы 1959 году, пачаўся перавод школаў нацыянальных рэспублік на расейскую мову навучаньня. Яскравым прыкладам можа быць хоць-бы БССР, дзе на расейскую мову навучаньня былі, фактычна, пераведзены ўсе 24 вышэйшыя навучальныя ўстановы, у тым ліку й так званы «Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт», а таксама бальшыня сярэдніх школаў. Напрыклад, ужо ў пачатку 1957—1958 навучальнага году з 58 сярэдніх школаў Менску зь беларускай мовай навучаньня было толькі 20 школаў. Ува ўсіх школах Карэльскай АССР (да 1957 году: Карэла-Фінская ССР) навучаньне вядзецца выключна ў расейскай мове ад 1954—1955 навучальнага году. Тое самае ужыта й да нацыянальнай меншыні Малдаўскай ССР. Школьна-моўная рэформа 1959 году ўжо зусім зносіць «выгляд» абавязковасьці навучаньня ў школах нацыянальных рэспублікаў у роднай мове й уводзіць так званы прынцып «дабраахвотнасьці», а, фактычна, праўна прачышчае дарогу расейшчыне. Ведама, гэты «закон» нацыянальныя рэспублікі маглі прыняць і маглі адкінуць, — так гаворыць савецкая прапаганда, шмат расьпісваючыся пра «раўнапраўнасьць» і «дабраахвотнасьць» у СССР. Але... калі, напрыклад, Вярхоўны Савет, Урад і кампартыя Азэрбайджану не згадзіліся прыняць гэты «закон», дык за гэта зараз-жа заплацілі сваімі становішчамі як кіраўнічыя кадры Вярхоўнага Савету, так і Ўраду й кампартыі Азэрбайджанскай ССР.

Для прысьпешаньня гэтага працэсу «моўнага зьбліжэньня» прадбачваецца яшчэ большая мена студэнтаў і прафэсуры, а галоўным чынам міграцыя ці зьмешваньне насельніцтва. Дасюль згон прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў на так званыя «будоўлі камунізму» разглядаўся пераважна ў эканамічным аспэкце. Аднак усё гэта зьяўляецца добра прадуманай палітыкай хутчэйшай дэнацыяналізацыі й русыфікацыі нерасейскіх народаў СССР. Да гэтага цяпер адкрыта прызнаецца й сама Масква. Запраўды, які можа даць эканамічны эфэкт, напрыклад, узаемны перавоз той-жа працоўна-прафэсіяльнай сілы з Каўказу ў Беларусь і зь Беларусі на Каўказ, або з цэнтральнай Расеі ў Беларусь і зь Беларусі ў цэнтральную Расею? А гэта робіцца, і Масква прыракае ў далейшым узмоцніць гэты перавоз і наагул міграцыю народаў. Часамі гэтую практыку яна называе «братняй дапамогай кадрамі», але штосьці трэба гаварыць, каб зьменшыць нацыянальны супрацiў нерасейскіх народаў. Вось чаму ўжо цяпер, не гаворачы пра большыя гарады, у нацыянальных рэспубліках сустракаюцца паасобныя й шматлікія індустрыяльныя, а навет і сельскагагаспадарчыя, абтокі з насельніцтвам зьмешаных народаў, а самі нацыянальныя рэспублікі пачынаюць называцца **многанацыянальнымі** рэспублікамі. Як правіла, у «многанацыянальных астраўках» пануюць выключна расейскія школы, наагул пануе толькі расейшчына.

Нарэшце, у такім-жа кірунку йдуць і тэндэнцыі скасаваньня дасюль яшчэ праўнае так званае «нацыянальнае формы» ў мастацкай і навуковай літаратуры, у штодзённай газэтнай прапагандзе. Усё больш і больш на балонах партыйнага друку ставіцца гэтая праблема «для абмеркаваньня», а значыцца — для расправы зь ёй. «Нацыянальная форма» — гэта была праблема **нацыянальных** моваў. Яна, фактычна, ня тычылася ні расейскае мовы, ні расейскага зьместу. У новай Праграме КПСС зазначаецца, што «нацыянальная форма» не павінна «касьцянець». Зыходзячы з гэтага «геніяльнага» адкрыцьця, а фактычна з палітыкі штучнай русыфікацыі, новасьпечаныя савецкія ідэёлягі ў нацыянальным пытаньні, якія звычайна падбіраюцца з так званых «нацыяналаў», імкнуцца ўсяляк давесьці, што палажэньне пра «нацыянальную форму» ў літаратуры ці мастацтве ўжо застарэла, становіцца «рэакцыйным», як-бы штучным тормазам для «станаўленьня» новага савецкага «камуністычнага» грамадзтва. Гэтая форма павінна быць заменена чымсьці «інтэрнацыянальным» — формай «самай перадавой» і «самай разьвітай» расейскай мовы.

Такім чынам, разьвязаньне праблемы «моўнага зьбліжэньня й зьліцьця» вельмі простае: штучная дэнацыяналізацыя нерасейскіх народаў у кірунку іхнай русыфікацыі. Пры гэтым цынічна гучыць апраўданьне, чаму «моўнае зьліцьцё» павінна адбывацца на аснове расейскай мовы: таму, што расейская мова ўжо цяпер сталася галоўным сяродкам зносінаў усіх падсавецкіх народаў; таму, што яна ўжо цяпер фактычна зьяўляецца «другой роднай мовай» нерасейскіх народаў; таму, што гэтая мова самая разьвітая й самая перадавая мова ў сьвеце; таму, што гэтая мова зьяўляецца мовай «самага пе-

*З радыёвай хвалі „Свабода“*

# Ясакар-Бядуля на пазыцыях „нутраное эміграцыі“

Сьледам за Купалам і Коласам ідзе ў літаратурную нутраную эміграцыю і малодшы іхны супрацоўнік у галіне адраджэнскай літаратуры Зьмітрок Бядуля-Ясакар. Ягоная творчасьць 1920-22 гадоў таксама выяўляе тэндэнцыі да тварэньня, перадусім, вялікіх разьмерамі твораў — паэмаў. Да гэтага часу жанр паэмы, пры чым паэмы вялікіх разьмераў, зусім адсутнічаў у Бядулі. Пісьменьнік канцэнтраваўся бадай вылучна на дробных, часта навет мініятурных, вершах і апавяданьнях лірычнага характеру. Праўда, і цяпер паводля сваіх разьмераў паэмы Бядулі далёка застаюцца ззаду ад аналягічных твораў Купалы й Коласа. Тым ня менш, наяўнасьць ухілу іх у бок манумэнтальнасьці бясспрэчная. Стараннасьць вонкавага апрацаваньня гэтых твораў таксама сьветчыць аб творчым адпружаньні паэта, якое вымагала і шмат часу, і ўглыбленьня ў гэтую працу пры адначасным адвароце ад усяго іншага.

Першы з такіх твораў Бядулі-Ясакара гэтага часу была напісаная ў 1921 годзе паэма «На хутары», якая ў значнай меры была апраўданьнем самой зьявы «нутраной эміграцыі». У цэнтры паэмы была выведзеная фігура моцнага селяніна, паводля пазьнейшай бальшавіцкай тэрміналёгіі — «кулака». Гэты селянін імкнецца ўсякімі спосабамі адгарадзіцца ад ненавіснай яму новай рэчаіснасьці і замкнуцца ад яе на сваім хутары, як-бы на нейкай тэрыторыі «нутраной эміграцыі». Новая бальшавіцкая сучаснасьць уяўляецца хутараніну ў кантрастовай супаставе зь лепшай мінуўшчынай:

З тых часоў, як забыў сваю песьню
І дзядоўскіх звычаяў наш люд, —
Ад чужых тут зрабілася цесна,
Апаганіўся родны наш кут.

Усё пайшло шурам-бурам на сьвеце
Аж да самых да Божых нябёс,
Вакол бачу цяпер ліхалецьце,
Ражаном лезе фіга пад нос.

А даўней тут лясы ў нас шумелі,
І птаства, і зьвяр'я было шмат,
Пышна рэкі вакол мігацелі,
Ой, быў край наш бясконца багат!

Вечарынкі былі, былі скокі,
Былі выпіўкі — проста бяда,
Мерцьвякі нават браліся ў бокі,
Як лявоніху сыпне дуда.

А цяпер-то гармошка-паскуда
Сваёй полькай даводзіць да сьлёз...

Бядуля паказвае свайго хутараніна зь вялікай сымпатыяй, робіць зь яго вобраз, што ахоўвае лепшыя традыцыі народу, супрацьстаўляючы іх усяму чужому і наноснаму.

У іншых сваіх паэмах гэнага часу Бядуля-Ясакар ажыцьцяўляе сваю літаратурную «нутраную эміграцыю» шляхам уцёкаў у сьвет фантастыкі і беларускай народнай міталёгіі. Сюды належыць перадусім закончаная ў 1922 годзе паэма «Зачараваны край», названая бальшавіцкай крытыкай спробай «стварэньня на аснове народнай кулацкай міталёгіі арыгінальнай беларускай бібліі». У запраўднасьці-ж тут Бядуля ўсыстэматызаваў касмаганічныя і міталягічныя сюжэты з найлепшых зборнікаў беларускіх народных (для бальшавікоў, чамусьці, «кулацкіх») казак Сержпутоўскага. Усэстэматызаваў ён іх у «кнігу старога запавету», як выявы старажытнага народнага духу «зачараванага краю» — Беларусі. Гэты «зачараваны край» Беларусі ўяўляўся паэту нейкім надземным царствам жыватворнага духа мастацтва. Быццам прадаўжэньнем гэтага твору была другая паэма Бядулі-Ясакара ў тым-жа духу — «Ярыла», пачатая ўсьлед за першай, яна, аднак, поўнасьцяй у друку так і не зьявілася. На колькі можна меркаваць на аснове паасобных надрукаваных урыўкаў, паэма гэтая павінна была ў цэлым прадстаўляць сабой нешта ў сэньсе «кнігі новага запавету» або, паводля бальшавіцкае крытыкі «арыгінальнага беларускага эвангельля». Адначасна з гэтым, паэма мелася быць і «эвангельлем» мастацтва, як запраўднай рэлігіі паэты.

Такі своеасаблівы рэлігійна-эстэтычны, ці, дакладней, нацыянальна-рэлігійна-эстэтычны характар абедзьвюх паэмаў Бядулі — «Зачараваны край» і «Ярыла» рабіў іх чужымі і варожымі савецкай сучаснасьці. Таму апошняя зь іх «Ярыла», не зважаючы на ўсе стараньні паэты, які адкрыта прызнаў у ёй улюблены плод свае музы, гэтак і не змагла пабачыць сьвету. А першая — «Зачараваны край» — заўсёды ацэньвалася бальшавіцкай крытыкай ня інакш, як выяўленьне «самай рэакцыйнай папоўшчыны», «містыкі» і гэтаму падобных «варожых плыняў».

Але паэмы «Зачараваны край» і «Ярыла» ня былі ў такой сваёй якасьці адзінокімі ў творчасьці Бядулі гэнага часу. Да іх цесна прыставала — і ідэйна, і тэматычна, і мастацка бальшыня лірычных вершаў паэты таго-ж пэрыяду. Вершы гэтыя ўвайшлі ў выдадзены ў 1922 годзе вялікі зборнік «Пад родным небам». Гэта была першая кніга вершаў Бядулі-Ясакара, што зьмяшчала ў сабе паэмы «На хутары» і «Зачараваны край» дый наагул усю вершаваную прадукцыю паэты з самага пачатку ягонай літаратурнай дзейнасьці. Дзеля таго, што паэма «Зачараваны край» і блізкія ёй характарам вершы надавалі тон кнізе, займаючы ў ёй дамінуючае палажэньне як з гледзішча на высокую мастацкую вартасьць, гэтак і колькасьць навет, — уся кніга была пазьней войстра асуджана бальшавіцкай крытыкай. Гэтак Алесь Кучар пісаў аб ёй:

«Усе вершы й вобразы авеяны вылучна рэакцыйнымі дачыненьнямі да рэчаіснасьці, папоўшчынай, містыкай, рэлігійнасьцяй. Бядуля стварае рэлігійны рамантычны культ мінуўшчыны. У гэтым сэньсе можна сьмела сказаць, што кніга «Пад родным небам» зьяўляецца наскрозь рэакцыйнай і варожай нам кнігай».

Гэтак ацаніла паэтычную творчасьць Бядулі, зьвязаную тэматычна й мастацка зь беларускай народнай творчасьцяй, бальшавіцкая літаратурная крытыка. У запраўднасьці-ж, калі разглядаць яе паводля аб'ектыўных мастацкіх і нацыянальных крытэрыяў, то Бядулявы творы гэтае пары належаць да найлепшых і найбольш арыгінальных ува ўсёй беларускай літаратуры.

Мы сказалі аб тым, як Бядуля-Ясакар адгароджваўся ад савецкай рэчаіснасьці, апрацоўваючы ў сваіх паэмах далёкія ёй тэмы зь беларускай міталёгіі і народнае фантастыкі. Але побач з гэтым Бядуля, як і іншыя адраджэнцы — «нутраныя эмігранты», у сваіх творах 1920—22 гадоў беспасярэдня атакаваў гэтую рэчаіснасьць і супрацьставіў ёй ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня. «Тадышняя рэвалюцыйная рэчаіснасьць — пісаў пазьней пра Бядулеву творчасьць бальшавіцкі крытык Бэндэ — уяўлялася пісьменьніку, як «цёмная ноч», якая ахутвала «сьветлыя» і «сьвятыя» шляхі адраджэньня, патушыла агні, запаленыя ў часе буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі». Другі бальшавіцкі крытык Васілёнак дапоўніваў абвінавачаньні Бэндэ, цьвердзячы, што «пераможны ход пралетарскай рэвалюцыі выклікаў у Бядулі безнадзейны пэсымізм, містыку».

Як бачым, Бядуля падтрымлівае і разьвівае далей выпады сваіх старэйшых сяброў-адраджэнцаў Купалы і Коласа супраць тых-жа «кавалёў» старога «ланцуга» нацыянальнае нявол. У вершы «Тры сьцежкі» Бядуля бачыць тры шляхі-сьцежкі, якія адкрыліся перад беларускім народам:

Адна на захад — да Варшавы,
Другая на ўсход — да Масквы,
А трэйцяя далёка, да самага сонца...

Паэта заклікае народ пайсьці гэтай трэйцяй сьцежкай, што завядзе яго «да самага сонца» — да шчасьця і волі.

Сваё ідэйна-мастацкае крэда найпаўней сфармуляваў Бядуля-Ясакар у натхнёным вершы «Беларусь», напісаным у 1922 годзе. Вось гэты верш:

I

Ты — летапіс з аповясьцяў вячыстых,
Акроплены сьлязамі дудароў.
Ты — яснацьвет ад водгульляў агністых
Жняёў, касцоў і старцаў-пастыроў.

У залатой кудзелі гучных сьпеваў
Дрыжыць твой бор, сумуе твой гушчар.
Дзед-чараўнік стаіць пад кожным дрэвам,
Балота сьпіць пад вэльмам зорных чар.

Твае лугі сьняць сны аб гуках ночных,
Аб вогнішчах начлежных дзяцюкоў.
Пад гуд віхроў, варожбаў сьвета-змрочных
Тчэ глебны дух абраднасьці вякоў.

Сам Госпад-Бог хадзіў тут па зямліцы, —
Усюль зіхцяць-відаць яго сьляды,
Па тых сьлядох красуюцца капліцы,
Па тых сьлядох брыдуць у даль Дзяды.

Зышліся тут Ярыла з Божым Сынам,
Сьвятая Маці з Доляю жыве.
Ў цяні дуброў пад старадаўным тынам
Ільля й Лясун расьселіся ў траве.

Тут кожны крок абвеян казкай сівай,
Што ручаёк — жалосных сьпеваў жмут.
Шурпаты пень на лузе, ці на ніве —
Нязнаны дух або таемны цуд.

Тут воўк — ня воўк, а чалавек закляты,
Тут корч — ня корч, а той-жа селянін.
А бусел-птах — ня птушка, а араты,
Вартуе Дзіў абшар лугоў, далін.

А курганы, а замчышчы, званіцы,
А пустыроў сьвятая цішыня;
А гнёздаў мест ліхтарні-зараніцы,
А вышыні гор, а рэчак глыбіня...

Усё жыве жыцьцём Дзядоў адвечных,
Тут кожны век пакінуў знак-пячаць.
Па тых знаках — па тых шляхох па млечных
Ідуць сыны свой край адбудаваць.

І край магіл, той край, дзе жыў Скарына,
Зноў парадзіў пракакаў і байцоў:
Ідуць-брыдуць, бы Нёман зь месца рынуў,
Бы грамада узброеных касцоў.

Іх кліч грыміць, як зычны хор грымотаў,
Як буралом імчыць у горны сьвет.
Дрыжыць зямля ад нізаў да высотаў,
Праменіць даль Купальскі агняцьвет.

Ускросьлі зноў багі сівых Калядаў,
Ратай ім сьпеў кідае на агонь.
Хто на аўтар падсыпне зельле здрады,
Таму ўвесь край шле жудасны праклён.

II

Ёсьць шмат такіх, што да Цябе плячыма,
Маці-Беларусь, адвернуты стаяць,
На Ўсход, Захад халопскімі вачыма,
Як вяпрукі зьдзічэлыя, глядзяць.

Грызуць яны тваіх дуброў насеньне,
Іх кпінаў гаць забрызгана гразьзёй, —
У глыб зямлі ўвайшло Тваё карэньне.
Лясы шумяць высока над Табой.

Ты зноў жывеш, бо Ты ня знала сьмерці,
Магутны дух мацней ад роду ў род.
Твая душа, шыр-думы Твайго сэрца
Расьлі-цьвілі з народу ды ў народ.

Сама, Сама наладзіш сваё веча, —
Разьбілі сталь адгукі вечных струн.
А хто пачне чыніць тут злыя рэчы, —
Таго заб'е наш волі бог-Пярун.

Сама, Сама азначыш Свае межы,
Без дапамог няпрошаных дзядзькоў.
Ты забярэш, што да Цябе належа,
Маці-Беларусь, спакон глухіх вякоў.

У гэтай урачыста-натхнёнай одзе да Беларусі Бядуля-Ясакар даў поўную сынтэзу сваіх ідэйных і мастацкіх прынцыпаў наскрозь нацыянальнага паэты. Паводля Бядулявай канцэпцыі, беларуская нацыянальная ідэя бярэ свае вытокі із сьвету народнае мудрасьці і няпамятных часоў беларускае мінуўшчыны, калі «сам Госпад-Бог хадзіў тут па зямліцы» і калі «зышліся тут Ярыла з Божым Сынам». Верш «Беларусь» выразна пераклікаецца зь міталягічна-фантастычнымі паэмі Бядулі-Ясакара «Зачараваны кут» і «Ярыла». Але гэтая фальклёрна-народная фантастыка — гэта паводля Бядулі духовая аснова беларускае нацыянальнае ідэі. «Па тых знаках — па тых шляхох, па млечных», што пралажылі ў Беларусі мінулыя вякі, цяпер «ідуць сыны свой край адбудаваць». Пад узьдзеяньнем гэтае жыватворнае старыны і зачарованага сьвету народнае фантастыкі гэты «край магіл, той край, дзе жыў Скарына, зноў парадзіў прарока і байцоў».

Навязваючы да вершу «Тры сьцежкі», Бядуля сьцьвярджае, што яшчэ «ёсьць шмат такіх», што «на ўсход, заход халопскімі вачыма, як вяпрукі зьдзічэлыя, глядзяць». Але гэта не палохае паэты.

Ён верыць, што жывыя нацыянальныя сілы пераможуць, бо Беларусь «ня знала сьмерці», бо «магутны дух мацней ад роду ў род». Ейная душа, «шыр-думы сэрца расьлі-цьвілі з народу ды ў народ», гэта значыць — з пакаленьня ў пакаленьне. У гэтым вершы Бядуля пераклікаецца зь ведамым вершам Коласа «Беларускагу люду», калі запэўнівае, што Беларусь «сама, сама адзначыць свае межы, без дапамог няпрошаных дзядзькоў», што «сама, сама наладзіць сваё веча».

Мала знойдзецца ў беларускай літаратуры гэтак моцных паводля ідэйнай глыбіні вершаў, як верш Бядулі-Ясакара «Беларусь».

Савецкая літаратурная крытыка вуснамі аднаго із сваіх прадстаўнікоў Васілёнка зусім правільна вызначыла ідэйныя пазыцыі Бядулі часоў ягонае «нутраное эміграцыі». Васілёнак пісаў: «Зьмітрок Бядуля ня прыняў... пралетарскае рэвалюцыі. У сваёй творчасьці ён выступаў супраць пралетарскае рэвалюцыі, супраць дыктатуры пралетарыяту». Гэткім парадкам беларуская літаратура ў творах Купалы, Коласа і трэйцяга паводля паэтычнага таленту ейнага прадстаўніка Бядулі-Ясакара ня толькі адгарадзілася ад сілком накінутай бальшавіцкай рэчаіснасьці. Больш таго, літаратура гэтая й асудзіла гэтую бальшавіцкую рэчаіснасьць, як чужую і варожую беларускаму народу. Гэтай бальшавіцкай рэчаіснасьці яна наважана супрацьпаставіла вымраеную ў думках і паэтычных вобразах беларускую нацыянальную рэчаіснасьць, яна ў натхнёных словах заклікала народ да змаганьня за ажыцьцяўленьне сваіх нацыянальных ідэалаў.

---

радавога народу» й ягонай «найбагацейшай у сьвеце» культуры, што яна зьяўляецца мовай Леніна й ленінізму!!!

Бязумоўна, калі тармазіць і здушваць разьвіцьцё моваў іншых народаў і штучна насаджваць мову «выбранага» народу, дык няўхільна апошняя мова павінна стацца «галоўным сяродкам» міжнацыянальных зносінаў і «другой роднай» мовай, мовай «перадавой» і «самай разьвітай». Дыялектыка гэтага працэсу вельмі простая. Яна палягае ў гвалце. Што-ж тычыцца палажэньня пра «мову народу з найбагацейшай у сьвеце культурай», «мову Леніна й ленінізму», дык тут шмат перабоpшчваньняў і наагул усё гэта пахне прымітыўным шавінізмам.

**Культурнае «зьбліжэньне».** Гэтае зьбліжэньне цесна зьвязана з працэсам «моўнага зьбліжэньня», але мае й свае асаблівасьці. У першую чаргу тут пастаўлена пытаньне ачышчэньня культураў нерасейскіх народаў ад так званых «аджыўшых нацыянальных асаблівасьцяў», наагул ад «буржуазна-нацыяналістычнага» зьместу, які чамусьці захаваўся пасьля больш, чым 40 гадоў бальшавіцкага панаваньня. Як цьвердзіць партыя, фактычна Масква, у культуры падсавецкіх народаў павінны застацца толькі «інтэрнацыянальныя» й «перадавыя» вартасьці, тое, што не адасабляе народы, але іх зьбліжае. Бяручы на ўвагу ўсю дасюлешнюю савецкую практыку, а таксама зыходзячы з таго, што «інтэрнацыянальнай» і «перадавой» можа быць толькі расейская культура, гэты працэс «культурнага зьбліжэньня» можа толькі адбывацца шляхам прыняцьця нерасейскімі народамі культуры расейскага народу. Дарэчы, гэта насаджваецца й у практыцы. Культура Ламаносава, Пушкіна, Чарнышэўскага, Талстога й г. д. ня мае, маўляў, ніякіх заганаў і яна цалкам можа быць прынятай усімі падсавецкімі народамі. Побач з гэтай культурай можа ўжывацца й культура, напрыклад, Скарыны, Купалы, Руставэлі ці Шаўчэнкі, але з умовай, калі яна будзе ачышчаная ад беларускага, грузінскага ці ўкраінскага «нацыяналізму» й ахварбаваная «дружбай» з расейскім народам і «дабрадзейнымі уплывамі» расейшчыны. Наагул-жа пажадана ўнікаць напамінаў пра спадчыну нацыянальных культураў, бо гэта прыводзіць да «нацыянальнага абмежаваньня» й «нацыянальнай напышанасьці». Найлепш і навет абавязкова ўзгадоўваць народы на традыцыях расейскай культуры, бо гэтая культура палітычна пэўная ды яна можа задаволіць культурныя патрэбы ўсіх нерасейскіх народаў.

У пляне гэткага «культурнага зьбліжэньня» праводзіцца шалёная русыфікацыя гістарычнага мінулага нерасейскіх народаў. Гэтую тэндэнцыю бачым цяпер у працэсе выданьня 10-томнае «Гісторыі СССР»; іншыя-ж гістарычныя працы ацэньваюцца не паводля таго, наколькі яны аб'ектыўныя, але вылучна паводля таго, наколькі спалучаюць гісторыю таго ці іншага народу зь гісторыяй Расеі, наколькі яны падкрэсьліваюць так званую «прагрэсыўнасьць» Расейскай імпэрыі й прылучэньне таго ці іншага народу да Расеі. Наагул-жа і тэрмін «аб'ектыўны» прыняў своеасаблівую расейскую ахварбоўку. Калі, напрыклад, той ці іншы гісторык імкнецца аб'ектыўна паказаць гістарычны працэс і гісторыю свайго народу, дык гэта абавязкова будзе «буржуазным аб'ектывізмам» і адыходам ад «ленінскай партыйнасьці»; калі-ж ён робіць усемагчымыя нацяжкі й сьведама хвальшуе гісторыю з мэтай паказаць «прагрэсыўнасьць» Расейскае імпэрыі і нацыянальнага паняволеньня свайго народу, дык гэта ўважаецца «запраўднай аб'ектыўнасьцяй». Асабліва хвальшуецца **сучасная** гісторыя нерасейскіх народаў. Тут робяцца ўсемагчымыя намаганьні, каб давесьці так званую «заканамернасьць» пераходу ўсіх пасавецкіх народаў да «сацыялізму» й утварэньня Савецкага Саюзу. Дзеля гэтага, як пасьля добрага дажджу грыбы, хоць і неспрыяльнай для іхнага росту глебе, у пісанінах казённых савецкіх гісторыкаў усюды пачынаюць вырастаць так званыя «бальшавіцкія арганізацыі», што разам з «народнымі масамі» ідуць да перамогі, зьнішчаючы на сваім шляху супраціў паасобных праяваў «буржуазна-нацыяналістычных» рухаў. Наагул з гэтых пісанінаў вынікае, быццам-бы зарганізаванных нацыянальна-вызвольных рухаў нерасейскіх народаў ніколі й не існавала. Былі быццам-бы толькі паасобныя «нацыяналістычныя» ці «дробна-буржуазныя» выскачкі, якія, ня маючы падтрымкі уласных народаў, зьнікалі перад бальшавізмам, як сьняжынкі на вогнішчы. Больш таго, яны паказаны тут, як «чужаземная агентура» й «зьлейшы антынацыянальны элемэнт». Узамен праслаўляецца «бескарысьлівая» дапамога расейскага народу, і перадусім «найбольшы прарок нацыяналаў» і іхны «збаўца» — Ленін. Запраўды-ж Ленін — гэта цынік, які праграмны кліч «нацыянальнага самавызначэньня» народаў разглядаў як гульню «праграмных словаў», якіх «ня варт было палохацца». Тым ня менш, каб яшчэ больш схвальшаваць сучасную гісторыю нерасейскіх народаў, партыя цяпер вядзе акцыю напісаньня як мага больш працаў, што «ўсебакова маглі-б насьвятліць дабрадзейную ленінскую нацыянальную палітыку» ды паказаць, што гэтая палітыка цалкам адпавядае нацыянальным інтарэсам нерасейскіх народаў. Адным словам, Масква цяпер робіць усемагчымыя высілкі, каб зьнішчыць гістарычную мінуўшчыну нерасейскіх народаў, а гэтым самым — і іхны нацыянальны твар.

**«Зьбліжэньне» праз абмен кадрамі.** У гэтым выпадку разумеецца ні міграцыя народаў, ні абмен прафэсіянальна-тэхнічнымі сіламі, але вылучна абмен дзяржаўна-кіраўнічымі кадрамі. Пры жыцьці Сталіна гэтая праблема навет і не закраналася, бо гэты «бацька народаў», паводля «ленінскага прынцыпу» падбору кадраў, пасвойму разьвязваў праблему. У выніку, усе кіраўнічыя становішчы ў нацыянальных рэспубліках займалі пераважна Расейцы. У часе змаганьня за сталінскую спадчыну Хрушчоў змушаны быў дапусьціць «памылку», і ў працэсе так званага «пашырэньня правоў» нацыянальных рэспублікаў згадзіўся перадаць кіраўнічыя становішчы (за выняткам становішчаў другіх сакратароў кампарыяў і босаў дзяржаўнай бясьпекі) прадстаўнікам адпаведных рэспублікаў. Гэта прывяло да праяваў так званага «месьніцтва», г. зн. нацыянальнага патрыятызму. Умацаваўшы сваю ўладу, Хрушчоў хутка спасьцерагае гэты свой «неразважаны» крок. З архіваў зноў выцягваецца «ленінскі прынцып» падбору кадраў, які афіцыйна азначае, што на кіраўнічыя становішчы ў нацыянальных рэспубліках кадры павінны падбірацца не паводля нацыянальных адзнакаў, але вылучна паводля «партыйнай якасьці» й «кіраўнічых здольнасьцяў» кандыдатаў.

